# МЕНСКАЯ ГРАМАДА

Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта

№ 2

ЛІПЕНЬ 1993 г.

Кошт – 5 рублёў


## Новая праграма, новая партыя

### (III зьезд БНФ «Адраджэньне»)

556 дэлегатаў з усіх мясьцінаў Беларусі зьехаліся ў Менск на Трэці зьезд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», які адбываўся ў будынку Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы. Зьехаліся, каб абмеркаваць сёньняшнюю сітуацыю ў нашай дзяржаве, вызначыць далейшыя шляхі ў нялёгкай барацьбе за яе сапраўдную незалежнасьць, дэмакратыю, супраць эканамічнага й палітычнага падпарадкаваньня чужаземным інтарэсам, да чаго імкнуцца ўрадавыя колы ў Беларусі. Вядома ж, гэтыя колы камуністычныя -- іх мэта зьвязаць рукі Беларусі рознымі няроўнапраўнымі дамовамі, зьвесьці на нішто яе незалежнасьць, нейтралітэт, падпарадкаваць імперскаму цэнтру.

Наша дзяржава апынулася ў неймаверных цісках крызісу, выкліканага антысуверэннымі дзеяньнямі ўраду, які менш за ўсё зацікаўлены станаўленьнем дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Заўтрашні наш дзень бачыцца яшчэ больш змрочным, чым сёньняшні. Народ усё больш абрынаецца па волі «власть имущих» у бездань жабрацтва. Па сутнасьці выкінуты на сьметнік усе нормы агульначалавечае маралі, годнасьці, прыстойнасьці.

Вядзецца на ўсіх узроўнях арганізаваны наступ на ўсё беларускае, улады не стрымліваюць гэтае антыдзяржаўнае істэрыі розных шавіністычных груповак, партый, асяродзьдзяў. Ствараецца ўражаньне, што яны і патураюць ім.

Вось у гэткіх варунках праходзіў зьезд. Захапляцца не было чым. Можна было хіба парадавацца толькі тым, што шэрагі Беларускага Народнага Фронту за апошнія гады ўзмацнелі, што большаюць і мужнеюць шэрагі тых, хто гатовы пастаяць у змаганьні за сваю Бацькаўшчыну. А што датычыць дакладу старшыні Сойму Народнага Фронту Зянона Пазьняка і выступаў дэлегатаў, дык яны былі дзелавымі, канструктыўнымі, з улікам рэалій сёньняшняга дня. Людзі бачылі ўсе цяжкасьці, нягоды, той цярністы шлях, па якім даводзіцца ісьці Беларусі, каб стаць сапраўды незалежнай дзяржавай. У дакладзе Зянона Пазьняка быў зроблены глыбокі аналіз усяго, што адбылося ў Беларусі за час, які мінуў паміж другім і трэцім зьездамі.

Прыгадваецца, як яшчэ колькі гадоў назад зласьлівая камуністычная прапаганда званіла на ўсе лады пра Беларускі Народны Фронт, што гэта ўсяго толькі «кучка экстремистов», «кучка оголтелых националистов» і г. д. Але сёньня гэтую «кучку экстремистов» прызналі як вялікую сілу у суседніх і нават больш далёкіх краінах. Нездарма ж на зьезд прыбылі з Літвы -- старшыня партыі «Саюз айчыны» В. Лансбэргіс, з Польшчы -- сенатар П. Панканін, дзеячы Саюза беларусаў у Польшчы А. Латышонак і Я. Мірановіч, старшыня Народнага руху Украіны В. Чарнавіл, прадстаўнік Народнага хрысьціянска-дэмакратычнага фронту Малдовы Д. Осіпаў, госьці з Вільні, Масквы і іншых гарадоў. Прысутнічалі на зьезде паслы Польшчы, Кітая, Расеі. атрыманы прывітальныя тэлеграмы да беларусаў замежжа, ад кіраўнікоў міжнародных дэмакратычных арганізацый.

Думаецца, пераказваць і аналізаваць увесь ход зьезду і прынятых ім рашэньняў тут няварта. Спадзяёмся, што гэта можна будзе зрабіць пазьней з улікам развою палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі, бо час, як вядома, не стаіць на месцы. Аднак найважнейшае трэба адмеціць. А гэтым найважнейшым было прыняцьце новае праграмы, якая падсумавала ўсю ранейшую дзейнасьць БНФ і вызначыла задачы на будучыню. Складаецца яна з сямі разьдзелаў: «Беларускі Народны Фронт Адраджэньне», «Галоўныя каштоўнасьці», «Раскрыцьцё асобы», «Сацыяльная рынкавая гаспадарка», «Дзяржаўны лад», «Беларусь у сьвеце» і «Заключэньне». Як бачым, адлюстроўвае найважнейшыя мэты нашага жыцьця.

Быў прыняты шэраг ухвал: пра становішча на Беларусі, пра ўсенародны рэферэндум, пра Канстытуцыю Беларусі, пра ўласнасьць на зямлю, да пытаньня нэйтралітэту і інш.

Адбыліся выбары кіроўных струк-

*(Заканчэньне на 2-й стар.)*



*Шчыра вітаем удзельнікаў 3-й Усебеларускай палітычнай канферэнцыі і Зьезду беларусаў сьвету на нашай роднай зямлі! Зычым замежным суродзічам шмат радасьці ад спатканьня з Бацькаўшчынай, вясёлых Купальскіх сьвятаў!*

**УХВАЛА III ЗЬЕЗДУ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»**

## Напярэдадні III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі

Зьезд БНФ «Адраджэньне» вітае аднаўленьне перапыненай дзеся-цігодзьдзямі таталітарна-імпэрскага паняволеньня традыцыі правядзеньня ўсебеларускіх палітычных канферэнцыяў з удзелам палітычных сілаў Беларусі і беларускай эміграцыі.

Зьезд даручае прадстаўнікам Фронту на III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі адстойваць лінію на незалежнасьць і нэйтралітэт Беларусі. Зьезд выказваецца за адмену рашэньня II (Бэрлінскай) Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі аб спыненьні дзейнасьці кіраўнічых органаў Беларускае Народнае Рэспублікі. Зьезд даручае прадстаўнікам БНФ на Канфэрэнцыі абгрунтаваць неабходнасьць пачатку дзяржаўнага будаўніцтва новай незалежнай Беларусі праз рэфэрэндум аб роспуску Вярхоўнага Савету і новых выбарах паводле дэмакратычнага выбарчага закону.

## Запруды на шляху станаўленьня дзяржаўнасьці

Рэспубліка Беларусь далучылася да шэрагу міжнародных дагавораў, пацьвярджаючы, што маладая незалежная дзяржава выяўляе волю стаць нацыянальнай, прававодй, дэмакратычнай. Міжнародная супольнасьць з адабрэньнем адносіцца да гэтага, не сьпяшаючыся, аднак, адчыніць дзьверы ў Еўрапейскі дом. І тлумачэньне гэтаму простае. Дзесяцігодзьдзямі гучныя дэкларацыі, якія абвяшчаў камуністычны рэжым, былі папяровымі лялькамі ў палітычных гульнях кіроўнай наменклатуры.

Пачынаючы ад дэкрэту аб зямлі (замест зямлі сяляне атрымалі калгасны лад, прыгоннае права), дэкрэту аб міры (замест яго вялася неабвешчаная вайна супраць уласнага народа) і канчаючы Канстытуцыямі СССР ды БССР, якія, відавочна, служылі не гарантам правоў чалавека і паступальнага развіцьця дэмакратычнага грамадзтва, а сродкам ідэялагічнага абалваньваньня і камуністычнага «выхавання мас», праватворчасьць пры дыктатуры «пралетарыяту» альбо «развітым» сацыялізме служыла сродкам захаваньня ўлады і жыцьцяўладкаваньня наменклатуры.

Вярхоўны Савет Беларусі, у якім большасьць складаюць духоўныя нашчадкі сканаўшага рэжыму, і цяпер ня ў стане дзейнічаць іншым чынам. Абвяшчае Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь -- і разбурае нацыянальную дзяржаўнасьць. Дэкларуе нейтралітэт -- і галасуе за далучэньне да вайсковага саюзу з Расеяй. Прымае артыкулы праекту Канстытуцыі агульнадэмакратычнага, у пэўнай ступені дэкларатыўнага зьместу -- і скасоўвае тыя яго палажэньні, на якіх грунтуецца сацыяльна-палітычны падмурак нацыянальнай дзяржавы. Так, застаецца не падмацаваны канкрэтнымі нормамі Канстытуцыі асноватворны дэмакратычны прынцып падзелу ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую.

«Не прайшлі» і наступныя палажэньні праекту Асноўнага закона: аб прафесійным парламенце, аб прэзідэнце рэспублікі, аб прамых усенародных выбарах кіроўных структур мясцовай выканаўчай улады, аб выбарчай сістэме, а таксама аб дзяржаўнай сімволіцы і статуце беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай. Пазьбегнулі заканадаўцы і таго, каб у прэамбуле Канстытуцыі ўзнавіць гістарычны шлях беларускай дзяржаўнасьці, скасаваўшы палажэньні аб пераемнасьці Рэспублікай Беларусь агульнадэмакратыных ідэй і нацыянальных традыцый ВКЛ, БНР і нават БССР.

Двурушная пазіцыя камуністычнай большасьці ў Вярхоўным Савеце вынікае з таго, што вышэйшы заканадаўчы орган БССР наканаваньнем лёсу і воляю Бога насуперак свайму жаданьню стаў органам улады незалежнай Рэспублікі Беларусь. У

*(Заканчэньне на 2-й стар.)*

## Да ўдзельнікаў зьезду беларусаў сьвету

Трэці Зьезд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» прыняў зварот «Да ўдзельнікаў зьезду беларусаў сьвету», у якім гаворыцца:

«Дарагія суродзічы! Шчыра вітаем ўсіх вас і зычым шмат радасьці ад спатканьня з Бацькаўшчынай. Але ўсьлед за натуральнаю радасьцю ад спатканьня з роднаю зямлёю вам давядзецца ўбачыць трагічны стан Беларусі, беларускае культуры, эканомікі дзяржаўнасьці.

Не дапусьціце, каб на вашых сьвятых пачуцьцях нажывалі сабе палітычны капітал ворагі беларускае незалежнасьці і дэмакратыі».

ЗДАНЬ ЯШЧЭ БЛУКАЕ...

# А што далей за перахопам ініцыятывы?

29-30 траўня ў Менскім інфармацыйна-культурным цэнтры адбыўся аб'яднаўчы зьезд Камуністычнай партыі Беларусі і Партыі камуністаў Беларусі, на якім прысутнічала 473 дэлегаты з 534 дэлегаваных на зьезд. Ён адбываўся пры замкнёных дзьвярах, у залу пасяджэньняў не пусьцілі нават ветэранаў-камуністаў, якія прыйшлі, каб павіншаваць дэлегатаў і падзяліцца зь імі сваім вопытам будаўніцтва сацыялізму і камунізму. Гэта вельмі абразіла старых змагароў за перамогу марксаўска-ленінскіх ідэй, за «сьветлую будучыню».

У парадку дня былі справаздача палітвыканкама ПКБ, прыняцьце праграмы, папраўкі ў статуце і выбары кіраўніцтва. Быў абраны калектыўны орган кіраваньня -- сакратарыят у складзе сямі чалавек -- Чыкіна, Лашкевіча, Новікава, Сямёнава, Акінчыца, Калякіна і Качана. Бюро Цк складаецца зь 13 чалавек, а сам ЦК -- зь 54. Цікава, што ў кіроўныя органы не трапілі былыя босы кампартнаменклатуры -- ні Малафеяў, ні Камай, ні Ціхіня. Відаць, вырашылі абыйсьціся бязь іх ці то з-за іхняе скампраметаванасьці, ці то з-за старэчасьці.

Напярэдадні камуністычнага зьезду чыкінская «независимая левая» газэта «Мы и время» апублікавала «Узловые положения программы ПКБ», у якой выкладаюцца асноўныя ідэйныя, палітычныя і эканамічныя пастулаты гэтай партыі. Уласна кажучы, у гэтых «положениях» няма нічога новага -- усё тыя ж надакучлівыя заклікі да сацыялістычнага будаўніцтва, сьцьвярджэньні аб адзіным імкненьні беларускага народа навыперадкі імчацца да сьветлых вяршыняў камунізму, аб «приверженности» калгаснага сялянства (г. з. прыгоннага) да калгасных (г. з. прыгонных) формаў гаспадараньня, аб гатоўнасьці бальшыні рабочых працаваць пасацыялістычнаму і г. д. Дасталося і розным дэмакратам, бюракратам, буржуям.

Мяркуючы па ўсім, дэлегатаў камуністычнага зьезду менш за ўсё турбавала будучыня незалежнай Беларусі, стан яе эканомікі, культуры, навукі. Яе будучыню яны бачаць толькі ў складзе савецкай імперыі, у ролі каланіяльнага абшару СССР. І да гэтага яны імкнуцца. Нездарма адзін з разьдзелаў так і названы: «Ближайшая цель -- перехват инициативы».

Камуністы Беларусі, сьцьвярджаецца ў ім, «выступают в период перегруппировки сил для перехвата стратегической инициативы». Яны ўжо патрабуюць «восстановления и развития экономических, политических, научных и культурных связей с другими республиками СССР, а так же присоединения к Договору о коллективной безопасности». Вось так! Як бы нічога не адбылося -- ёсьць рэспублікі фікцыйныя, ёсьць СССР зь яго «нерушимой дружбой народов»! Магчыма, перахоп ініцыятывы -- гэта першая стадыя, за якой прадбачыцца наступная -- як у 1917 годзе?

Як паведаміла газэта «Мы и время» «съезд прошел в обстановке единодушия», а скончыў сваю працу «пением партийного гимна «Интернационал». Што ж, усё было паводле бальшавіцкай традыцыі!

**З. П.**



*Штотыднёвік «Po prostu».* *Fot: Jerzy Sabara*

# Звальненьне за... патрыятызм

У друку зьявіліся паведамленьні, што міністр абароны Казлоўскі звольніў у запас мазырскага ваеннага камісара палкоўніка Трацьякова і начальніка аддзела гэтага ваенкамата падпалкоўніка Івашчанку за дэскрэдытацыю званьня афіцэра. Яны на будаўніцтве сваіх асабістых дачаў (можна меркаваць, ня лецішчаў, скляпаных так-сяк з розных брусоў і дошчак, а салідных будынін) выкарыстоўвалі дармавую рабочую сілу -- вайскоўцаў запасу, ды рабілі яшчэ нейкія «іншыя злоўжываньні». Гэта вельмі абурыла міністра і ён вырашыў турнуць іх з пасад. А месяца паўтара таму з гэткай самай фармулёўкай у загадзе быў звольнены з войска падпалкоўнік Мікалай Статкевіч. Не, не за выкарыстаньне прыгоннай рабочай сілы. Бо наколькі вядома, падпалкоўнік Статкевіч не будуе сабе дачы. А за патрыятызм. Вядома, не за той патрыятызм, у запале якога патрыёты сьпявалі: «Наш адрес не дом и не улица, наш адрес -- Советский Союз» і які, відаць, вельмі кранальны для таварыша міністра і ягонае каманды. А за беларускі, за тое, што Мікалай Статкевіч, як і шмат іншых афіцраў, адчувае сябе сынам сваёй Бацькаўшчыны-Беларусі, а не зямлі «от Москвы до самых до окраин».

У Згуртаваньні беларускіх вайскоўцаў, якое ўзначальвае падпалкоўнік Статкевіч, Міністэрства абароны ўбачыла вялікую небясьпеку: раптам гэтыя людзі зьбеларусізуюць усё Беларускае войска і яно загаворыць на дзяржаўнай мове. Што ж тады рабіць тым, хто ня хоча ведаць беларускае мовы, дый навошта яна патрэбна Беларускаму войску? Значыць, трэба тупнуць ны іх ды крыкнуць: «Не сметь!». І тупнулі, і крыкнулі. Прыняцьце прысягі патрыётамі-вайскоўцамі на плошчы Незалежнасьці ў Менску 8 верасня 1992 г. было расцэнена міністэрскімі чыноўнікамі, як дэструктыўны акт. Вось каб на вернасьць усёй СНД -- тады іншая справа!

Але ж -- не паслухалі, не падпарадкаваліся генеральскім воклікам. Верхам непаслушэнства стала негатыўнае стаўленьне ЗБВ да мілітарнага дагавору з Расеяй і іншымі краінамі СНД, які па сутнасьці ліквідуе нейтралітэт Беларусі. Тут ужо міністэрскай цярплівасьці настаў канец. Але як жа пазбавіцца ад неслухмянага падпалкоўніка? Згуртаваньне ж беларускіх вайскоўцаў не палітычная, а грамадзкая арганізацыя, гэта занатавана і ў яго статуце. А што, калі зьвярнуцца да намесніка Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь таварыша Кандрацьева?

Вось яму й даручылі разабрацца: грамадзкае ці палітычнае гэтае згуртаваньне. Ну, вядома, таварыш Кандрацьеў і разабраўся: палітычнае! Гэтак, як і трэба было чыноўнікам у вайсковых мундзірах. А раз палітычнае -- кіраўніку яго ня месца ў войску, бо войска ж дэпалітызаванае. Праўда, пры гэтым быў зроблены выгляд забыўчывасьці, што ў гэтым самым войску ходзяць у пагонах члены і «Славянского собора «Белая Русь» і «Союза офицеров» і яшчэ азін Бог ведае хто.

Падпалкоўнік М. Статкевіч зьвярнуўся ў народны суд Цэнтральнага раёна г. Менска з просьбаю разгледзець законнасьць ганебнай фармулёўкі, прычыны звальненьня і правамоцнасьць самога загаду аб звальненьні. Але, як і варта было чакаць, суд адмовіўся прыняць ягоную заяву, спаслаўшыся на пастанову N 15 Вярхоўнага суда Беларусі. Гэтая пастанова прадугледжвае разгляд заяў, пададзеных вай-скоўцамі, у вайсковых трыбуналах. Хоць ужо пэўны час М. Статкевіч зьяўляецца цывільным грамадзянінам. Такім чынам кола замкнулася.

Вакол гэтай справы імпэты напальваюцца. Рэакцыйныя колы ўхваляюць загад міністра абароны. Так, СС «Белая Русь» заявіў, што М. Статкевіч «встал на преступный путь невыполнения приказов». Дэмакратычныя ж сілы Беларусі рашуча сталі на абарону чалавека, які пацярпеў за патрыятызм. Дзеячы культуры заявілі свой рашучы пратэст супраць самаволства вайсковых уладаў, на плошчы Незалежнасьці адбыліся мітынгі ў абарону зьняважанай годнасьці беларускага афіцэра.

**А. УЗЫМАЦКІ.**

Віктар НАВУМЕНКА

# Слуцкаму паўстанцу

Сьцюдзёны вецер
ганяе друз,
Засохлым лісьцем
крабе па мёрзлай,
згрудзелай глебе,
Заслаць гатовы
сьнягоў абрус,
Што для хаўтураў,
сьсівеўшы з гора,
рыхтуе неба.

Глядзіць у грудзі
чужацкі штых,
Адчайна б'ецца,
секунды лічыць
і лічыць сэрца.
Жыцьця застаўся
апошні міг,
За ім -- бяздоньне,
за ім -- бясконцасьць,
за ім -- бясьмерце.

Жыцьцё за волю
аддаў герой,
За волю краю,
свайго народу --
нас -- беларусаў.

Яго і потым
чужынец той,
Баяўся болей,
чым д'ябал крыжа,
чым землятрусу.

Хацеў чужынец,
каб мы, народ,
Згубілі памяць,
магілы продкаў
і нават мову.
Ды так ня будзе.
Настане год --
І будзе помнік,
і будзе гонар
для Семяжова!

А покуль -- вецер
ганяе друз,
Засохлым лісьцем
скрабе па мёрзлай,
згрудзелай глебе,
Заслаць гатовы
сьнягоў абрус,
Што для хаўтураў,
сьсівеўшы з гора,
рыхтуе неба.

# «На магілах ня сеюць пшаніцы...»

Як паведаміла рэдакцыі жыхарка Менска спадарыня Марыя Селіванава, гітлераўцы расстрэльвалі яўрэяў ў гады акупацыі Беларусі ня толькі ў ваколіцах вуліцы Ратамскай, яўрэйскіх могілкаў і Масюкоўшчыны, але і дзесьці паблізу прыгараднае вёскі Кунцаўшчына. У малалеткавым узросьце ў той час ёй даводзілася бачыць (жыла паблізу Кальварыі), як гітлераўцы вазілі яўрэяў па Ракаўскай дарозе ў бок Кунцаўшчыны. Пра гэта чула і ад дарослых.

Спадарыня Марыя мяркуе, што месца масавай згубы людзей знаходзіцца дзесьці каля Кунцаўшчыны, паблізу ад кругавой дарогі, акая апяразвае Менск. Кажа, што цяпер у тых мясьцінах усё заарана і засеена, ніякага знаку там няма.

Наша выдатная паэтка Ларыса Геніюш у свой час пісала:

*На магілах ня сеюць пшаніцы,*
*з чужой крыўды ня вырасьце*
*доля.*
*Хто ня здольны прад зьдзекам*
*спыніцца --*
*панаваць той ня будзе ніколі.*

Памылялася, відаць, спадарыня Ларыса. Сеялі на касьцях і панавалі, сеюць і пануюць.

**Уласн. інф.**

# Крыжовы паход на нашу гісторыю

У антыбеларускім паходзе актыўна ўдзельнічаюць і праслаўныя клерыкалы Расейскае царквы на Беларусі. Газэта «Пагоня» ў сваім 16-ым нумары надрукавала вытрымкі з «Гродненских епархиальных ведомостей» за май сёлетняга года. Большае чарнасоценнае паскудзтва, чым тое, што надрукавана ў «Ведомостях...», цяжка ўявіць. Зьневажаецца народнае вызваленчае паўстаньне ў Беларусі ў 1863 годзе, абліваецца брудам постаць Кастуся Каліноўскага. Чаго вартыя, скажыце, прасякнутыя ядавітай нянавісьцю слоўцы: «Память о любимце большивиков К. Калиновском искусственно поддерживается современными националистами... Сегодня идут разговоры о том, чтобы в Гродно был воздвигнут памятник лидеру мятежа 1863 года...» і гэтак далей у тым самым духу.

Як бачым, шавіністы ў рызах разбушаваліся на нашай зямлі не на жартачкі, цягнуць свае брудныя лапы ў нашу гісторыю. Салодкагалосасьць пра любоў да бліжняга не перашкаджае ім закракаць і пакрумкачынаму. Ці не зь вялікаю любоўю яны «воздвигли б» у Гародні помнік Мураўёву-вешальніку -- душыцелю паўстаньня 1863 года.

## Манархія ці рэспубліка?

Як стала вядома рэдакцыі, управа Беларускае хрысьціянска-дэмакратычнае злучнасьці на сваім пасяджэньні ледзь ня выключыла з шэрагаў партыі сябру ўправы Алега Бэмбеля. Прычынаю паслужыла тое, што спадар Алег Бэмбель выступіў па Беларускім радыё ад імя БХДЗ і сказаў, што для Беларусі найбольш прыймальным было б манархічнае кіраваньне. Як вядома, у праграме Беларускае хрысьціянска-дэмакратычнае злучнасьці не прадугледжана ўвядзеньне ў нашай дзяржаве манархічнага ладу.

І ўсё ж цікава было б ведаць, каго прапанаваў бы спадар А. Бэмбель на беларускі трон?

**Уласн. інф.**

## Дзьве партыі

Два гады назад у Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі ўзьніклі супярэчнасьці, якія, чым далей, тым больш паглыбляліся і абвастраліся. Летась дайшло да расколу, у выніку чаго ўтварыліся дзьве асобныя партыі з адной і той самай назвай. Нядаўна кіраўнікі абедзьвюх Нацыянальна-дэмакратычных партый А. Апрышка і А. Астапенка былі запрошаны ў Міністэрства юстыцыі Беларусі, дзе ім паведамілі, што дзве асобныя партыі ня могуць дзейнічаць пад аднолькавай назвай. Якая зь іх зьменіць сваю цяперашнюю назву -- пакуль невядома.

**Уласн. інф.**

## *Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў*

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі разгледзела прадстаўленыя на конкурс творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і прысудзіла прэмію 1993 года з прысваеньнем званьня лаўрэата, уручэньнем ганаровага знака і дыплома Уладзіміру Ягаўдзіку -- аднаму з заснавальнікаў газэты «Менская грамада» -- за ягоны зборнік беларускіх легендаў і паданьняў «Заклятыя скарбы».

**Паўлік ГАРАСІМАЎ**

## Судны дзень

Ён мусіў быць...
І я яго чакаў,
Так, як чакае бацька сына,
пакінутага ім....
І вырвана чака...
Яшчэ хвіліна...
Ён мусіў быць...
«Заблудшие ватаги»
ішлі, хто як,
бо пазбыліся веры.
Страчалі іх зламаныя асьверы...
і смага.
Ён мусіў быць...
І вось настаў той дзень,
калі я ў дом свой, дзе
самотнасьць уладарыць,
ступіў, а ўсьлед
за мной зайшоў
мой цень і ў сьпіну
мне ударыў...

## *Таямніца аднаго забойства*

15 кастрычніка 1959 г. у Мюнхене быў забіты кіраўнік Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістаў Стэпан Бандэра. Савецкія сродкі масавай інфармацыі паведамлялі тады, што гэта быў вынік парахункаў у самой АУН. Летась газэта «Літературна Україна» (нумар за 23 студзеня) у артыкуле «Паказаньні забойцы: 15 кастрычніка 1959 году» падрабязна расказала пра тое, як рыхтаваўся і быў зроблены замах на жыцьцё С. Бандэры.

«Мокрая» справа была даручана агенту КДБ Багдану Сташынскаму, ураджэнцу сяла Бартовішчы на Львоўшчыне, які супрацоўнічаў з КДБ з 1950 году, калі быў яшчэ юнаком. У гэтай справе ён меў ужо дасьведчанасьць -- у 1957 годзе забіў вядомага ўкраінскага журналіста ў Мюнхене Лэўку Рэбэта. Першая спроба забойства С. Бандэры ў красавіку 1959 г. скончылася няўдачаю -- у Б. Сташынскага «падвялі» нервы.

Затое да другога туру паляваньня на С. Бандэру Б. Сташынскага падрыхтавалі як мае быць. Узброілі спецыяльным (даволі простай канструкцыі) пісталетам, які выстрэльваў са сваіх двух руляў ампулы з цыяністым каліем. Быў добра прасьледжаны шлях ад службовага памяшканьня да кватэры С. Бандэры, гадзіны і хвіліны вяртаньня яго дамоў.

І вось настаў дзень 15 кастрычніка. Багдан Сташынскі перад гэтым правёў дакладную «рэкагнасцыроўку» з мосту Людвіга і вуліцы Цэпэліна, убачыў ад'езд С. Бандэры, і пасьпяшаўся на вуліцу Крайтмайра. Тут у вестыбюлі дома N 7, дзе была кватэра С. Бандэры, ён чакаў зьяўленьня кіраўніка АУН. І калі той увайшоў, Б. Сташынскі стрэліў з абедзьвюх руляў пісталету. Сьмерць С. Бандэры была амаль імгненная. Такім чынам Саветы пазбавіліся ад яшчэ аднаго свайго працўніка, які здаваўся ім найбольш небясьпечным.

За сваю «працу» Багдан Сташынскі быў адзначаны высокаю ўзнагародаю. Сам тагачасны шэф КДБ Шалепін уручыў яму ордэн Баявога Чырвонага сьцягу.

Але не мінула і двух гадоў, як Багдан Сташынскі даў дзёру на Захад. Ці то ведаў, што ягоныя хлебадаўцы пазбаўляюца ў такіх выпадках ад сьведкаў або непатрэбных ужо выканаўцаў злачынстваў, ці сумленьне заела, але пастараўся не спазьніцца, пакуль галава на карку. Там ён, перад судом у Карльсруэ (Федэратыўная Рэспубліка Германіі), і выявіў усю кухню падрыхтоўкі і зьдзяйсненьня задуманага ў Маскве злачынства.

**У СЬВЕЦЕ ЦІКАВАГА**

## У кожным краі -- свае звычаі

Пра Індыю мы ведаем, як пра краіну кантрастаў, дзе побач са старажытнай цывілізацыяй, дасягненьнямі сучаснага прагрэсу суседнічаюць зьявы, перанесеныя як бы зь мінулага. Адной з гэтых зьяў зьяўляюцца частыя эпідэміі халеры, чумы. Як сьведчыць французскі лекар П'ер Гаскар у сваёй кнізе «Падарожжа да жывых», пры нашэсьці страшнае госьці -- чумы на тую ці іншую вёску жыхары пакідаюць свае сядзібы і робяць часовыя буданы дзесьці далей ад вёскі, чакаючь, пакуль не прарадохнуць пацукі -- пераносчыкі хваробы.

І ўвесь гэты час над вёскаю, як сымбаль пагрозы, лунае чырвоны сьцяг, ён сьведчыць -- тут чума, асьцерагайцеся, падарожныя!

## Было ў каго павучыцца

Старшыня «народнай судовай палаты» ў часы гітлераўскага панаваньня ў Нямеччыне Р. Фрайсьлер быў у тады першай сусьветнай вайны салдатам кайзераўскай арміі і трапіў у рускі палон. Пасьля кастрычніцкага перавароту ён пранікся камуністычнымі ідэямі і стаў камісарам аднаго з інтэрнацыянальных палкоў чырвонай арміі, добра вывучыў рускую мову. У 1920 г. ён вярнуўся ў Нямеччыну камуністам, але хутка расчараваўся ў камуністычных ідэях і ў 1925 г. стаў членам нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі Гітлера. Стаў юрыстам, расправоўваў нацысцкае заканадаўства. Як статс-сакратар міністэрства юстыцыі ўдзельнічаў у канферэнцыі ў Ванзэе (прыгарадзе Берліна), якая вырашала лёс габрайскага насельніцтва Эўропы.

Р. Фрайсьлер быў тыповым нацысцкім садыстам. Нават калегі па працы звалі яго «карычневым Вышынскім». Асабліва жорстка судзіў ён удзельнікаў змовы 20 ліпеня 1944 г., дзе ўжываў метады, як ён сам казаў, якія выкарыстоўваліся на працэсах 1937-1938 гг. у Маскве.

**(З кнігі: М. Сямірага. «Тюремная империя нацизма и ее крах»).**



*Руіны нашай мінуўшчыны.*

***«Менская грамада» будзе ўдзячная грамадзянам і арганізацыям за іхнія ахвяраваньні на выданьне газэты. Рахунак Асацыяцыі беларускіх выданьняў 700408 у АК Белбізнесбанку ў г. Менску, код 739.***

*Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта*
***«Менская грамада»***
**Заснавальнікі: Асацыяцыя беларускіх выданьняў ТБМ імя Фр. Скарыны, Віталь Скалабан, Алесь Траяноўскі, Яўген Цумараў і Уладзімір Ягаўдзік.**

*Аўтары допісаў адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, якая паведамляецца імі. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтара. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца й не высылаюцца назад аўтарам.*

**Галоўны рэдактар Алесь ТРАЯНОЎСКІ.**

**Адрас рэдакцыі і выдаўца: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэл. і факс 33-13-52.**
Газэта набрана й звёрстана на настольна-выдавецкім комплексе штотыднёвіка «Наша доля»
*Наклад 4,5 тыс. паасобнікаў.*
*Друкарня «Перамога», г. Маладзечна.*
*Падпісана да друку 28.VI. 1993 г.*
*Заказ N 714.*